№№137–138
(3676–3677)

4 верасня 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
*Якуб КОЛАС*

АКТУАЛЬНО

*Михаил МИХАДЮК, заместитель министра энергетики:*

# «По льготной цене четыре человека должны использовать (в месяц) порядка 180 кВт летом и 195 кВт зимой»

*Не исключено, что до конца года в Беларуси будут введены лимиты на свет. Уже подготовлен проект постановления правительства.*

*— Вводится не лимит на потребление электроэнергии, а объем потребления, который будет оплачиваться по льготным тарифам, а сверх него — по более высоким тарифам,* — рассказал во время on-line-конференции заместитель министра энергетики **Михаил Михадюк**. *— Подготовлен проект постановления правительства, которым предусмотрено, что в зависимости от количества зарегистрированных жителей будет вводиться льготный объем потребления электроэнергии. При этом будут учитываться зимний и межотопительный периоды, наличие в доме газовой или электрической плиты.* ***По льготной цене четыре человека должны использовать порядка 180 кВт летом и 195 кВт зимой. Это касается квартир с электроплитой. Для других — несколько меньше.***

Если такие нормы введут, то оплата электроэнергии здорово ударит по кошелькам белорусов. Судите сами. Сегодня минская семья из четырех человек, которая живет в трехкомнатной квартире, оборудованной электроплитой, двумя холодильниками, телевизором, микроволновой печью и тремя компьютерами потребляет в месяц около 350—400 кВт электроэнергии. Т.е. почти в два раза больше льготной нормы потребления, которую определили разработчики проекта. Допустим, три компьютера — это перебор. Но все равно они не "потянут" 150—200 кВт электроэнергии в месяц. Кроме того, проведя небольшой опрос среди сотрудников редакции, мы выяснили, что в среднем 180—200 кВт электроэнергии потребляет семья из трех человек, которая имеет два компьютера, телевизор, холодильник и стиральную машину, т.е. стандартный набор электроприборов.

Платим мы пока за свет действительно немного. 1 кВт электроэнергии в домах, оборудованных электроплитой, стоит 250,6 рубля, а в домах с газовыми плитами — 295 рублей.

Сколько денег в среднем придется выкладывать за электроэнергию, когда на нее введут лимиты?

*— Сегодня при себестоимости производства электроэнергии 9,75 центов за кВтч население платит около 3,5 цента,* — пояснил Михаил Михадюк. — *Это называется перекрестным субсидированием. Во всем мире за электроэнергию платят столько, сколько она стоит. ... Моя личная позиция — платить реальную стоимость. Но направить адресную дотацию многодетным, малоимущим, пенсионерам, которые не имеют должного уровня дохода.*

Т.е. получается, что за потребляемую сверх нормы электроэнергию, возможно, мы будем платить из расчета 800 рублей за 1 кВт. И если семья будет расходовать сверх нормы 200 кВт, то ей придется заплатить за это 160 (!) тысяч. Плюс, естественно, произвести оплату за выжженный по льготным расценкам лимит электроэнергии. Сегодня, к слову, за 400 кВт электроэнергии семья, которая живет в квартире с электроплитой, платит около 100 тысяч рублей.



**К СЛОВУ**

## В лимит по потреблению воды белорусы укладываются

*При норме в 4,2 кубометра в среднем один белорус расходует в месяц 3,4 кубометра воды.*

С октября прошлого года правительство заставило белорусов экономить воду. 28 сентября 2011 года Совмин издал специальное постановление, согласно которому по льготному тарифу оплачивается 4,2 куб.м воды в месяц на одного человека (или 140 литров воды на человека в сутки). За воду, которую потребляют сверх этого норматива, приходится платить почти в 2 раза больше. К слову, когда постановление вступало в силу, один кубометр "льготной" воды стоил 890 рублей, по повышенному тарифу — 2 тысячи 545 рублей. Менее чем за год вода подорожала вдвое. В июле 2012 года по льготному тарифу вода стоила уже 1 тысячу 450 рублей за кубометр, по нельготному — 4 тысячи 920.

В мае этого года министр ЖКХ **Андрей Шорц** заявил, что в среднем один человек потребляет в месяц 3,4 кубометра воды, т.е. легко вкладывается в норматив. Причем эти данные касались прошлого года, когда дифференцированно за воду мы платили только три месяца. Правда, директор "Минскводоканала" **Иосиф Герасименок** признавался, что треть минских семей в лимиты по потреблению воды все же не вписывалась. Превышение, как правило, составляет 3—5 л воды в сутки на человека, реже — 20—30 литров.

**КОМПЕТЕНТНОЕ МНЕНИЕ**

## «Белорусы уже оплачивают 100% стоимости услуг»

— Может быть, нет ничего плохого в том, что и белорусов учат экономить? — поинтересовались мы у экономиста **Леонида ЗЛОТНИКОВА.** — В конце концов, в цивилизованных странах население уже давно платит за электроэнергию столько, сколько она стоит.

— По статистике, белорусы оплачивают 1/3 от стоимости затрат на производство не только электроэнергии, но и всех услуг, — говорит Леонид Злотников. — Но очевидно, что население уже давно оплачивает всё стопроцентно. Не чиновники же платят из своего кармана! 2/3 оплачивают фирмы через перекрестное субсидирование. Это значит, что они учитывают эти затраты при себестоимости продукции, которую белорусы в конечном итоге и покупают. Т.е. оплата происходит не непосредственно в сберкассе по жировке, а косвенно.

Наша система глубоко архаична. Потому что, когда население не платит, оно не имеет выбора покупки коммунальных услуг, не влияет на качество и стоимость этих услуг. Поэтому у нас нет и рынка коммунальных услуг, нет альтернативных государству поставщиков этих услуг. Всем управляет государство.

Сегодня надо обсуждать не то, сколько киловатт электроэнергии надо оплачивать по льготному тарифу, а сколько за полную стоимость. Мы за деревьями не видим леса. Нужен другой лес. Нужна другая система. Когда нам говорят, что в Европе население стопроцентно оплачивает услуги ЖКХ, нас ведь не обманывают. Но там население, оплатив эти услуги, имеет еще возможность нормально питаться, отдыхать и путешествовать по миру.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

БЕЛАРУСЬ: МАДЭРНІЗАЦЫЯ, ПОГЛЯД У БУДУЧАЕ

# Ці патрэбны нашай краіне рэформы і якімі яны павінны быць?

***Размовы пра перспектывы развіцця Беларусі і неабходнасць правядзення рэфармавання гучаць на самых розных узроўнях. "Народная Воля" высветліла, што на гэты конт думаюць прадстаўнікі розных узроставых і сацыяльных груп.***

**Каліса ПАМАЗАНАВА,**
**пенсіянерка (амаль паўстагоддзя адпрацавала на паліграфічным камбінаце імя Я.Коласа):**

— Канешне, рэформы патрэбны і як мага хутчэй. Балюча глядзець, як некаторыя заводы і фабрыкі, якія яшчэ 20 гадоў таму працавалі на поўную моц, цяпер альбо ў заняпадзе, альбо завяршаюць свой некалі слаўны шлях. Тое абсталяванне, якое было яшчэ за савецкім часам, састарэла, а новага няма.

Да рэформ падштурхоўвае і дэмаграфічная сітуацыя. Большасць насельніцтва жыве ў гарадах. Хутка людзям не будзе дзе працаваць. Гэтую сітуацыю можа вырашыць толькі тэрміновая мадэрнізацыя.

Патрэбны рэформы і ў галіне адукацыі. Школа павінна ўзгадаць лепшыя традыцыі і не толькі вучыць школьнікаў, але і выхоўваць іх. Вядома ж, многае залежыць ад бацькоў.

**Уладзімір КОЛАС,**
**старшыня Рады інтэлігенцыі, дырэктар ліквідаванага ўладамі нацыянальнага гуманітарнага ліцэя:**

— Натуральна, рэформы патрэбны. Што да мадэрнізацыі ў сферы адукацыі, то ў школах перш за ўсё патрэбна ўводзіць дыферэнцыяцыю, каб у старэйшых класах было паглыбленае вывучэнне асобных прадметаў.

Школе патрэбна дэмакратызацыя, каб не было "прамывання мазгоў" дзяржаўнай ідэалогіяй, і гэта пры тым, што самі ідэолагі не надта могуць адказаць, у чым яна, уласна, заключаецца.

Вучням патрэбна большая самастойнасць. Ну і патрэбна нацыяналізацыя школы, што азначае яе беларусізацыю. Трэба мець і захоўваць сваю гістарычную памяць, а не быць носьбітам расійскай імперскай каланіяльнай ідэалогіі.

**Андрэй КЛІМАЎ,**
**былы бізнесмен:**

— Перш чым казаць хоць пра якія-небудзь рэформы, нашай краіне трэба вызначыцца спачатку з геапалітычным становішчам. Сёння мы аднолькава ўспрымаемся як ворагі і для Расіі, і для Захаду. Як так можна жыць? Як толькі вызначымся, тады трэба будзе думаць, як стварыць інвестыцыйны клімат, бо без гэтага ніякіх прадпрыемстваў не пабудуеш. Вось я ехаў па трасе Мінск—Масква і назіраў за калонай нашых аўтобусаў. Нехта з чыноўнікаў можа пахваліцца: маўляў, аўтобусы сваёй вытворчасці. А я скажу: каму яны такія патрэбны? Навошта выпускаць прадукцыю, якая саступае еўрапейскім аналагам?

Аднавіць старыя прадпрыемствы цяпер ужо нерэнтабельна. Трэба будаваць новыя.

**Аляксандр ЯРАШУК,**
**старшыня Беларускага Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў:**

— Беларусь даўно праехала той момант, калі былі неабходны рашэнні па рэфармаванні палітычнай сферы і эканомікі. Гэта выклік, які з кожным днём становіцца ўсё больш актуальным, але, на вялікі жаль, сённяшняе кіраўніцтва краіны не рэагуе, не жадае і не можа рэагаваць на гэта.

Лічу, што перамены, рэформы, мадэрнізацыя абсалютна патрэбны краіне, але яны не патрэбны ўладам, бо нясуць пагрозу існуючай сітуацыі.

**Вячаслаў ГАНЧАРЭНКА,**
**пастар царквы "Новае жыццё":**

— Рэформы наогул патрэбны, каб жыццё людзей паляпшалася. Я вось мяркую, што трэба рэфармаваць заканадаўства ў рэлігійнай сферы. Дзяржаўная ідэалогія не павінна глядзець на рэлігію як на канкурэнта.

Трэба нарэшце даць магчымасць людзям самім выбіраць, у якую царкву хадзіць. Нармальнай краіне патрэбна роўнасць усіх канфесій.

Мы ж не бяром грошы ў дзяржавы, наадварот, дапамагаем людзям, якім патрэбна дапамога. Колькі людзей яе не дачакаліся? Паглядзіце статыстыку самагубстваў у Беларусі толькі за адзін год! Калі б гэтым людзям было куды звярнуцца, куды патэлефанаваць, то, можа, усё было б не так жудасна.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ВАКОЛ СКАНДАЛУ

## Цёмная справа

Расследаванне справы беларускай штурхальніцы ядра Надзеі Астапчук працягнулі, але збіраюцца завяршыць яго да канца тыдня.

Нагадаем, Надзея Астапчук заваявала на Алімпіядзе ў Лондане залаты медаль, але ў хуткім часе МАК адабраў узнагароду і дыскваліфікаваў спартсменку за ўжыванне допінгу. Зрэшты, канчатковыя кропкі над "і" павінны былі расставіць пасля расследавання справы. Зараз, па словах дырэктара Нацыянальнага антыдопінгавага агенцтва Аляксандра Ванхадло, расследаванне вырашылі працягнуць, бо быццам бы высветліліся некаторыя новыя абставіны. Што гэта за абставіны? Пакуль гэта захоўваецца ў тайне. Аднак да канца гэтага тыдня разбіральніцтва плануюць завяршыць.

Так што пытанні застаюцца адкрытымі. Ці прымала спартсменка допінг-прэпарат? І ці маглі яе падставіць?

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



ВЫБАРЫ-2012

## Лябедзьку і Багданкевіча не пусцілі ў эфір

*Тэлеканал "Беларусь 2" адмяніў запіс дэбатаў кандыдатаў у дэпутаты "з-за паломкі абсталявання".*

Пра гэта паведаміў лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька.** Паводле яго слоў, учора раніцай меўся адбыцца запіс яго дэбатаў з кандыдатам у дэпутаты і дзейным дэпутатам **Мікалаем Самасейкам**.

"*Аднак мне пазванілі і паведамілі, што па тэхнічных прычынах — з-за паломкі абсталявання — запіс адмяняецца",* — сказаў Лябедзька.

Сам Лябедзька ў такую версію не верыць. *"На мінулым тыдні я запісваў дэбаты таксама з дзейным дэпутатам* ***Святланай Шылавай****. У маім выступленні не было заклікаў да байкоту, але тое, што ў нас няма выбараў, няма парламента, — гэта я агучыў, і наша жорсткая пазіцыя была выкладзена. Шылава, я мяркую, у дэбатах выглядала бледнавата. Таму або зараз тэлеканал тэрмінова арганізуе курсы па вучобе праўладных кандыдатаў па выступленні перад камерай, або думае, што наогул рабіць з дэбатамі і як пазбавіцца ад такой непрыемнасці",* — сказаў Лябедзька.

Хоць, на яго думку, *"пяціхвілінныя дэбаты ў запісе — гэта і так ганьба для нашых выбараў".*

Па аналагічнай прычыне быў адменены запіс дэбатаў кандыдата ў дэпутаты **Таццяны Караткевіч**, падтрыманай кампаніяй "Гавары праўду!".

Яна павінна была дыскутаваць з кіраўніком Мінскага гарадскога савета дэпутатаў **Міхаілам Савановічам** і былым старшынёй Нацбанка Беларусі **Станіславам Багданкевічам.**

Як паведаміў БелаПАН кіраўнік выбарчага штаба кампаніі "Гавары праўду!" і давераная асоба Караткевіч **Андрэй Дзмітрыеў**, ён таксама меў намер узяць удзел у дэбатах. *"Апошнім часам па тэлеканале „Беларусь 2" можна было глядзець толькі футбол. Відаць, альтэрнатыўных меркаванняў і непрыемных пытанняў апаратура не вытрымала",* — сказаў ён.

ЧУЛІ?

## «ВКонтакте» аднавіла групу «Надакучыў нам гэты Лукашэнка»

*Тэхнічная падтрымка сацыяльнай сеткі пайшла насустрач адміністратарам групы. Былі адноўлены ўсе запісы ў пратэстнай супольнасці, таксама падтрымка "ВКонтакте" вярнула ўсіх выдаленых удзельнікаў у групу.*

Акрамя таго, правы стваральніка групы былі перанесены на адміністратара, які знаходзіцца ў Варшаве, каб узлом групы праз мадэратараў, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, больш быў немагчымы.

Нагадаем, 30 жніўня супрацоўнікамі спецслужб было затрымана пяць мадэратараў пратэстных супольнасцяў у сацыяльнай сетцы "ВКонтакте". Чэкісты канфіскавалі іх камп'ютарную тэхніку і атрымалі доступ да кіравання групай "Надакучыў нам гэты Лукашэнка" з 37.000 удзельнікамі і "Толькі ШОС!" з больш чым 15.000 падпісчыкамі.

Супрацоўнікі спецслужб уручную выдалялі кожны запіс і кожнага ўдзельніка з супольнасці. Пасля затрымання і допыту **Андрэя Ткачова** асудзілі на 7 сутак за "дробнае хуліганства", **Паўла Еўціхеева** — на 5 сутак, **Алега Шрамука** вызвалілі позна ўначы пасля допыту, **Рамана Пратасевіча** збілі і вызвалілі як непаўналетняга**, Сяргей Бяспалаў** паспеў збегчы ад спецслужб і цяпер хаваецца ў Расіі.

## Мастакоў пакаралі за ўшанаванне памяці Расціслава Лапіцкага

Мастака суполкі "Пагоня" Алеся Цыркунова пакаралі штрафам у адзін мільён рублёў. Гэта адбылося на наступны дзень пасля правядзення акцыі ў Смаргоні.

2 верасня там сабраліся мастакі суполкі "Пагоня" Алесь Цыркуноў, Генадзь Драздоў і Алесь Пушкін сумесна з мясцовымі актывістамі Уладзімірам Шульжыцкім і Валянцінам Варанішчам, каб адзначыць угодкі з дня нараджэння кіраўніка Смаргонска-Вілейскага незалежніцкага падполля Расціслава Лапіцкага (1928—1950). Быў замоўлены малебен і асвячоны чатыры намаляваныя Пушкіным партрэты Лапіцкага. Потым гэтыя карціны паставілі ў гарадскім парку каля помніка Францішку Багушэвічу. Па дарозе да дома Валянціна Варанішчы мастакі раздавалі прахожым буклеты пра дзейнасць Лапіцкага і былі затрыманы міліцыянерамі. Ноч да суда ім давялося правесці ў пастарунку. Тых, хто запатрабаваў адваката, будуць судзіць 10 верасня.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ПАД ГРАДУСАМ

## Анамалій у верасні не чакаецца

*Сіноптыкі склалі доўгатэрміновы прагноз надвор'я на першы восеньскі месяц. Пакуль сюрпрызаў і катаклізмаў не чакаецца.*

Згодна з папярэднім прагнозам надвор'я, верасень будзе трымацца ў межах кліматычнай нормы. Верагодна, ***гэты месяц будзе нават трохі цяплейшым і больш сухім, чым звычайна.***

Пасля нядоўгага ***пахаладання, якое пачнецца з 6 верасня***, у Беларусі зноў усталюецца адносна стабільнае і цёплае надвор'е. Па усёй тэрыторыі краіны будуць чакацца невялікія ападкі, месцамі моцныя дажджы. Псавацца надвор'е пачне ў другой палове месяца, сярэднясутачная тэмпература будзе трымацца ў раёне гістарычных паказчыкаў — +15—19 градусаў.

Метэаралогія — навука не вельмі дакладная, прагноз за месяц можа змяніцца. Але ў тым, што чакае нас у бліжэйшыя дні, спецыялісты сумневу не маюць.

***У бліжэйшыя суткі*** чакаецца пераменная воблачнасць. Месцамі кароткачасовыя дажджы. Ноччу і раніцай у асобных раёнах туман. Вецер заходні, паўночна-заходні, умераны. Тэмпература паветра мінімальная ноччу — +8—15°С, максімальная днём — +18—24°С.

***5 верасня*** краіна будзе знаходзіцца ў асноўным у полі павышанага атмасфернага ціску. На большай частцы захаваецца сухое і камфортнае надвор'е, толькі днём па паўночным захадзе пройдуць кароткачасовыя дажджы, у асобных раёнах з навальніцамі. Ноччу і раніцай месцамі туман. Тэмпература паветра ўначы +6—13°С, днём +18—25°С.

***6 верасня*** пахаладае. Ноччу месцамі, днём на большай частцы пройдуць кароткачасовыя дажджы. Днём месцамі прагрымяць навальніцы, падзьме парывісты паўночны вецер. Тэмпература паветра ўначы +8—15°С, днём +13—20°С, па Гомельскай вобласці да +22°С.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info 4 ВЕРАСНЯ 2012 г.

ВОСТРАЕ ПЫТАННЕ



# Людзі душацца за басейн

*Каб набыць гадавы абанемент у басейн, жыхары Фрунзенскага раёна Мінска займаюць чаргу за некалькі дзён да пачатку продажу і начуюць пад дзвярыма ўстановы. Часам не абыходзіцца без міліцыі...*

## Вадаплаўныя беларусы

Для дзвюх соцень сямей з Фрунзенскага раёна Мінска канец жніўня стаў часам, калі прыйшлося знаёміцца з тонкасцямі вядзення пазіцыйнай вайны. Некалькі дзён яны літаральна трымаюць у аблозе школьны басейн на вуліцы Кунцаўшчына. Іншага спосабу атрымаць магчымасць займацца плаваннем проста няма.

*“На раён з насельніцтвам больш за трыста тысяч толькі два басейны, яшчэ два на рамонце,* — па тэлефоне заклікала нас прыехаць на месца падзей адна з “вартавых” басейна Святлана. — *Кожны раз адно і тое ж, і з кожным навучальным годам усё горш”*.

Прызнацца, цяжка было паверыць у безвыходнасць сітуацыі. Ну, пастаяць людзі ў чарзе, што тут такога? Але на месца ўсё ж такі выехалі. Тое што давялося ўбачыць пад сценамі басейна ў спальным раёне, уражвае. У натоўпе прыкладна 200—250 чалавек, большасць з дзецьмі, некаторыя прынеслі складныя крэслы і табурэты. Шальная думка: *“Такі пікет не сніўся ніводнаму кандыдату ў дэпутаты...”*

Знаходзім сярод натоўпу Святлану, якая тэлефанавала ў рэдакцыю. Жанчына кажа, што стаіць за абанементам для дзяцей, просіць пачакаць — вось-вось пачнецца пераклічка, і ні ў якім выпадку нельга прапусціць чаргу. Пакуль Святлана сёмая ў спісе на 300 месцаў. Каб заняць такую выгадную пазіцыю, **ёй прыйшлося станавіцца ў чаргу ў палове пятай раніцы**. І нават пасля пераклічкі Святлана і яе сваякі, роўна як і сотні іншых бацькоў, прыйдуць на начное дзяжурства — ёсць небяспека, што з’явяцца іншыя жадаючыя і складуць уласны спіс.

*“Мы жывём у гэтым раёне больш за дзесяць гадоў,* — у вольны момант распавяла жыхарка раёна. — *У пазамінулым годзе былі бойкі, у мінулым людзі неяк лепш арганізаваліся і абышлося. Праўда, міліцыя дзяжурыла”*.

Басейн сярэдняй школы №201 разлічаны на дзяцей і дарослых. Вялікі басейн мае чатыры дарожкі даўжынёй 25 метраў з максімальнай глыбінёй 2 метры. Галоўная прычына папулярнасці басейна — таннасць. Месячны абанемент каштуе 88 тысяч рублёў, другі працуючы басейн Фрунзенскага раёна за адзін сеанс просіць 33 тысячы. Ільгот не маюць ні шматдзетныя сем’і, ні людзі з захворваннямі.

*“Калі артапед прызначае наведванне басейна, то раіць ехаць у Зялёны Луг — там сітуацыя лепшая,* — прызнаецца Святлана. — *А тут няма нічога, хоць гэты басейн і быў пабудаваны ў 1990 годзе. Лічу, што за гэты час можна было б узвесці некалькі новых басейнаў, калі ў нас такая спартыўная дзяржава”.*

Размова зноў перапыняецца, натоўп хвалюецца — збілася чарга. Народнае веча павінна вырашыць — узнаўляць у спісах тых, хто спазніўся на пераклічку на некалькі хвілін, ці не. Бачна, што міралюбнасці можа не хапіць да канца спісу...

## Куды падзець дзяцей у «шматдзетным раёне»?

На шчасце, выбуху не здарылася. З чаргавікамі разабраліся, і пераклічка пайшла па накатанай. Да нашай размовы далучаюцца некалькі жанчын, прадстаўляюцца калектывам настаўніц. Людзі дзеляцца інфармацыяй: аказваецца, падаўжаць абанемент нельга. Ці адразу набываеш на год, ці спадзявайся, што пасля заканчэння першага табе пашчасціць узяць другі.

*“Вось і скажыце, навошта пабудавалі ў маленькіх гарадках столькі лядовых палацаў?* — задаецца рытарычным пытаннем яшчэ адзін удзельнік нашай размовы — пажылы мужчына, які прадставіўся спадаром Кротавым. Ён хоча ўзяць абанементы ў басейн для сябе і жонкі. — *Няўжо мы такая хакейная дзяржава?..”*

Аглядаю басейн. Бачна, што будынак патрабуе рамонту: плітка месцамі абвалілася, цагліны рассыпаліся. Тыя, хто раней наведваў басейн, прызнаюцца, што згодны і на такія ўмовы.

*“У нас “шматдзетны раён”, але няма куды дзяцей вадзіць,* — уздыхае адна з настаўніц. — *У сем’ях па пяць, па шэсць дзяцей, а куды іх прыстроіць? Іх жа трэба чымсьці заняць, каб злачыннасць не ўзрастала. І так раён не самы спакойны...”*

Настаўнікі ўзгадваюць, як некалькі гадоў таму бясплатна вадзілі вучняў малодшых класаў на сеансы плавання. Знутры басейн даволі прыстойны, чыста ды і вада неблагая.

*“Некаторыя з тых дзяцей больш ніколі басейна і не ўбачаць”*, — шматзначна дадае дама.

Чым далей стаім, тым больш рэзкія выказванні чутны ад маіх суразмоўцаў. Паступова даходзім да палітыкі — вось-вось парламенцкія выбары.

*“Ім абсалютна напляваць на нас,* — выказваецца аб дэпутатах адна з настаўніц. — *У іх свае ўмовы для жыцця, нашы іх проста не цікавяць”*.

*“У аднаго з партыйных работнікаў савецкіх часоў запыталі, калі ж мы будзем жыць пры камунізме,* — жартуе пажылы “пікетоўшчык”. — *Дык той здзівіўся і сказаў: “Мы ўжо жывём, а народ тут пры чым?!”*

Настаўніцы аглядаюць натоўп і паказваюць на “сваіх” бацькоў. Вось там шматдзетная мама, а вось у тых мужчыны і жанчыны чацвёра дзяцей, і вунь тыя маюць трайню.

*“Ім бы ежы зварыць, а не ў чэргах стаяць”,* — уздыхнуў нехта.

Людзі не разыходзяцца, чакаюць рашэння наконт начнога дзяжурства. Большасць ужо змірылася з тым, што начаваць будуць ля прыступак басейна.

*“Мая калега сёння праходзіла тут у 08.15, і чарга ўжо была,* — працягвае расповед настаўніца. — *А я ўстану ў чатыры раніцы і прыеду сюды, замест таго каб рыхтавацца да новага навучальнага года”*.

Паволі сыходжу з “мітынгу”, калі пачынае садзіцца сонца. Вакол кіпіць жыццё: Каменная Горка, Кунцаўшчына, Сухарава — раёны маладыя, шмат маладых сямей, дзяцей. Будуюцца новыя дамы, разрастаецца горад, а ў цэнтры спальнага раёна людзі б’юцца за месца на плавальнай дарожцы.

Пяць год таму недалёка адкрылася новая школа са спецыяльна адведзенай пад басейн пляцоўкай. Бацькі нават былі гатовыя ладзіць суботнікі і дапамагаць будаваць басейн. Але справа, як у басні, — воз і зараз там.

### ДАРЭЧЫ

Усяго ў Мінску 35 басейнаў. Але набыць абанементы ў многія з іх — насамрэч вялікая праблема.

### АФІЦЫЙНА

## Анатоль ТОЗІК: «Нам трэба ў кожным раёне мець добры плавальны басейн!»

Як паведамлялася, зусім нядаўна намеснік прэм’ер-міністра **Анатоль Тозік** узначаліў беларускую федэрацыю плавання. За паўгода да прызначэння дзяржаўны чалавек прамовіў палымяны спіч, які вельмі зацікавіў бы “вартавых” Кунцаўшчыны, 20 а.

*“Хачу звярнуць увагу на адну з такіх праблем: давайце навучым вучняў малодшай школы плаваць,* — вяшчаў спадар Тозік. — *Паставім перад сабой задачу, каб выпускнік пачатковай школы не на паперы, а фактычна ўмеў плаваць. На вадаёмах мы губляем недапушчальную для нашай краіны колькасць жыццяў. Нам трэба ў кожным раёне мець добры плавальны басейн. Давайце складзём спіс дзетак, якія там пражываюць, і навучым іх плаваць. Калі няма басейна ў школе, давайце паглядзім, дзе ён ёсць паблізу, і будзем вучыць іх там. Ці знойдзем магчымасць накіраваць дзяцей у летнія лагеры, у многіх з якіх ёсць басейны або адкрытыя вадаёмы, дзе пад наглядам інструктараў таксама можна вучыцца плаваць”*.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ПЕРАГОВОРЫ

## Израиль планирует отменить визовый режим с Беларусью

*Об этом вчера говорил с белорусскими чиновниками министр туризма Израиля* ***Стас Мисежников,*** *который находится с рабочим визитом в Минске.*

При этом министр туризма пока не называет возможных сроков упрощения условий получения визы: данные аспекты еще предстоит согласовать в двустороннем порядке.

Посол Израиля в Беларуси **Иосиф Шагал** отметил, что послабление визового режима — важная тема в двусторонних отношениях. По его словам, решение этого вопроса в настоящее время в большей степени зависит от белорусской стороны. Он обратил внимание, что израильтянину для получения визы в Беларусь необходимо потратить 120 долларов, тогда как въездная виза в Израиль для белоруса стоит 22 доллара.

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## Залаты хлопец

*За чатыры дні Паралімпійскіх гульняў, якія гэтымі днямі праходзяць у Лондане, 18-гадовы беларускі плывец Ігар БОКІЙ заваяваў тры медалі!*



Адзначым, што з гэтых трох узнагарод — дзве залатыя і адна сярэбраная. Да таго ж плывец устанавіў сусветны рэкорд на стометроўцы вольным стылем. Як кажуць: без каментарыяў...

Дарэчы, пасля таго як Ігар заваяваў сваё першае “золата” на Гульнях, ён заявіў журналістам: маўляў, разлічваю яшчэ як мінімум на тры медалі.

Пасля чатырох працоўных дзён Паралімпіяды на рахунку беларускіх спартсменаў было пяць узнагарод. Акрамя трох медалёў Ігара “бронзу” ў акадэмічным веславанні заваявала Людміла Валчок, а Аляксандр Субота паказаў трэці вынік у трайным скачку.

**P.S.** *Як стала вядома, учора Ігар Бокій выйшаў у фінал заплыву 100 метраў на спіне таксама з новым сусветным рэкордам. Фінал прайшоў вечарам, калі газету ўжо здалі ў нумар.*

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Чаму Кандрацьеў не пайшоў бы на матчы сваёй зборнай?

*7 верасня нацыянальная зборная Беларусі па футболе матчам з камандай Грузіі стартуе ў адборачным раўндзе чэмпіянату свету-2014.*

Нагадаем, што першыя дзве гульні беларусы правядуць у гасцях — 7 верасня — з камандай Грузіі, 11-га — з французамі. А затым беларускіх аматараў футбола чакае 12 кастрычніка цікавы матч у Мінску, у якім зборная Беларусі згуляе з чэмпіёнамі свету і Еўропы — іспанцамі.

Дарэчы, кошт пакета білетаў на дамашнія матчы з іспанцамі і грузінамі каштуе не танна — ад 280 да 480 тысяч рублёў.

— Ці пайшлі б вы за такія грошы на гэтыя гульні? — запыталі ўчора на прэс-канферэнцыі ў галоўнага трэнера зборнай Беларусі **Георгія Кандрацьева.**

— Не пайшоў бы, — адказаў той. — Але не з-за грошай. Мне не падабаецца, калі мяне абшукваюць з ног да галавы. Мне менавіта гэта не падабаецца. Даходзіла да смешнага. Аматары футбола казалі міліцыянерам: „Каго вы абшукваеце?..” Я лепш пагляджу футбол па тэлевізары. Для трэнера так нават лепш. Ёсць паўторы. А ўжывую мае памочнікі ходзяць глядзець. На матчы, на якія збіраецца вялікая колькасць людзей, я не хаджу. Лепш наведаю матч чэмпіянату Беларусі, там народу менш.

**Алесь СІВЫ.**

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Глыбокая плынь

*Два дні ў Глыбокім, што на Віцебшчыне, панавала роднае слова — туды завітала Свята беларускага пісьменства. Але ці застанецца тут павага да беларускага слова пасля свята?*




Па-беларуску стараліся размаўляць нават чыноўнікі, уключаючы віцебскага “губернатара” **Аляксандра Косінца**. Атрымлівалася не заўсёды складна, але тое нікому не замінала, наадварот, надавала пекнасці, большай шчырасці ўсёй атмасферы. Калі б па-беларуску загаварыў яшчэ і спадар Чаргінец, то ўсё выглядала б яшчэ лепей. Але пісьменніцкі начальнік і гэтым разам прамаўляў па-руску: свята святам, а свая кашуля, то бок руская мова, бліжэй...

Па традыцыі сёлетні Дзень пісьменства адзначалі з размахам, па поўнай святочнай праграме: адных толькі артыстаў — больш за тысячу, не кажучы ўжо пра майстроў слова, розных народных умельцаў, выдаўцоў, гандляроў і ўсіх астатніх. Народу таўклося столькі, што не прапіхнуцца. Але ж і парадак прысутнічаў, прычым міліцыянты вялі сябе надзіва карэктна, без залішніх прыдзірак.

У якім бы куточку краіны ні адзначалі Дзень пісьменства, заўсёды знаходзілася дамінанта ў шматаблічнай святочнай дзеі. І тая дамінанта рабілася раптам дыяментам... Гэтак атрымалася і ў Глыбокім. Да гонару мясцовай улады, тутэйшых краязнаўцаў і проста годных людзей, усе яны спрычыніліся да высакароднага ўчынку, вартага захаплення: у цэнтры горада (узбоч Плошчы 17 верасня) было вырашана ўстанавіць бронзавыя бюсты гістарычных асоб, якіх нарадзіла глыбоцкая зямля, — атрымалася цэлая алея герояў... Тыя постаці ўславілі сваімі імёнамі, сваім жыццядайным святлом не адно Глыбоччыну, але ўсю Беларусь і нашмат далей. Ці варта казаць, наколькі складаную (ва ўсіх адносінах) задачку ставілі перад сабой месцічы?!. Але ўсё пераадолелі, выдзюжылі, і вось яны — бронзавыя выявы — проста перад намі: вядомейшы мецэнат-фундатар шматлікіх храмавых пабудоў **Іосіф Корсак;** фалькларыст і мастак **Язэп Драздовіч**; аўтар “Кароткай гісторыі Беларусі”, вядомейшы палітычны і грамадскі дзеяч, ініцыятар нацыянальнага і культурнага адраджэння рэспублікі на пачатку ХХ ст. і ён жа ахвяра таталітарнай дзяржавы **Вацлаў Ластоўскі**; рэфарматар іўрыта — дзяржаўнай мовы Ізраіля — **Эліэзер Бен-Ягуда**; заснавальнік беларускага тэатра **Ігнат Буйніцкі**; славуты авіяканструктар **Павел Сухі**... За кожнай постаццю — пласт нашай слаўнай і трагічнай гісторыі... І ўсе яны родам адсюль, з Глыбоччыны, з мястэчка, якое наколькі старадаўняе (праз якія два гады адзначыць 600-годдзе), настолькі і багатае талентамі — што ў мінулыя часы, што цяпер... Дзякуючы якраз выбітным асобам — творчым, дзейсным — Глыбокае дайшло да нас такім, якім паўстае — у выглядзе цудоўных храмаў... А яны не адно матэрыяльная культура, але і наша духоўная спадчына. Возьмем хоць кафедральны сабор у гонар Нараджэння Прасвятой Багародзіцы — найбуйнейшы ў Беларусі праваслаўны храм (умяшчае да трох тысяч вернікаў). Заснаваны ў 1639 годзе, ён ужо больш як 370 гадоў асвятляе душы людзей святлом Божай Ласкі. У яго гісторыі досыць і горкіх, і слаўных старонак. І хоць у розныя эпохі называўся па-рознаму — касцёлам Успення Багародзіцы, царквой Нараджэння Багародзіцы, кафедральным Свята-Народжана-Багародзіцкім саборам, але ж заўсёды заставаўся душой горада, яго сэрцам: менавіта адсюль пачынаюцца галоўныя шляхі, якія вядуць на Полацк, Рыгу, Вільню, Мінск... Учытаймася ў напісанае святаром Катлінскім у “Литовских епархиальных ведомостях” за 1878 год: *“Нішто не можа ісці ў параўнанне з архітэктурай Глыбоцкага касцёла, у якім перш за ўсё лёгкасць і грандыёзнасць будынка захапляльныя да здзіўлення. Увесь будынак уяўляе сабою ідэал дасканаласці...”* А вось што пакінуў у сваім дзённіку **Напалеон Банапарт**, які цэлых дзесяць дзён праседзеў у Глыбокім падчас паходу на Маскву: *“Я шкадую, што не магу ўзяць яго (маецца на ўвазе касцёл Успення Багародзіцы. —* ***Аўт.****) з сабою ў Парыж; храму Notre Dame не сорамна было б мець яго па суседстве”.*

На плошчы 17 Верасня (наўпрост ад алеі) яшчэ адзін велічны помнік архітэктуры — касцёл Найсвяцейшай Троіцы, заснаваны ў 1628 годзе якраз **Іосіфам Корсакам**. Ён быў капітальна рэканструяваны на самым пачатку ХХ стагоддзя, а потым асвечаны віленскім прэлатам. Уся Глыбоччына ў каталіцкіх і праваслаўных храмах, а дзе храмы — там вернікі, там традыцыя і болей святасці. У Празароках — на радзіме **Ігната Буйніцкага** — аддана служыць сваім вернікам касцёл Маці Боскай, пабудаваны ў 1907 годзе. Там жа Петрапаўлаўская царква, заснаваная ў 1909 годзе. Помнікамі гісторыі і культуры прызнаны праваслаўныя храмы ў вёсках Мамаі, Бабруйшчына, Верхняе, Кавалі, Забор’е, касцёлы ў Прошкаве, Дзеркаўшчыне, Задарожжы, Мосары. У кожным з іх — свая вабнасць, сваё хараство і свая прыцягальнасць. Вось чаму Свята пісьменства ў Глыбокім не абмежавалася адным нядзельным гульбішчам, але спачатку было асвечана навукова-асветнай экспедыцыяй “Дарога да святыняў”. І гэта абсалютна правільна, бо спачатку было Слова, і Слова было — Бог... На Глыбоччыне слова роднае ніколі не гнялі, як бы ні хацелася розным інтэгратарам-інтарнацыяналістам. І на вёсках, і ў горадзе яно чутно... Ды і назвы паселішчаў самі за сябе кажуць, услухайцеся толькі: Дзегцяры, Шубнікі, Скарабатуны, Бондары, Ганчары, Ткачэўшчына, Краўцы, Кавалі, Леснікі... А во яшчэ: Ласі, Ластаўкі, Ласёва, Барсукі, Драздзы, Галубы, Бобрыкі...






Яшчэ напярэдадні Дня пісьменства ў горадзе ўсталявалі памятныя мемарыяльныя дошкі на будынках, у якіх некалі жылі **Вацлаў Ластоўскі, Язэп Драздовіч, Тадэвуш Даленга-Мастовіч, Давід Перэльман**, авіяканструктар **Павел Сухі** і іншыя таленавітыя глыбачане. Але вось што цікава: у свой час мясцовыя актывісты ўсталявалі мемарыяльную шыльду таму ж Дуж-Душэўскаму (чатыры гады таму), але правісела яна якіх пару дзён. Улады знялі яе, бо не было ўзгоднена з райвыканкамам. Чыноўнікі ўгледзелі ў асобе Дуж-Душэўскага “дзеяча БНФ”... Цяпер жа ўсё стала на свае месцы. Для ведама: **Клаўдзій Дуж-Душэўскі** — вядомы архітэктар, на Літве ягоных пабудоў даволі шмат. І ён жа лічыцца стваральнікам сцяга Беларускай Народнай Рэспублікі — таго самага бел-чырвона-белага сцяга, які ў 1991—1994 гадах быў дзяржаўным у нашай краіне...

Алея герояў Глыбоччыны, роўна як і мемарыяльныя шыльды, толькі пачатак вялікай справы па адраджэнні ўсяго, што міла сэрцу. Змены да лепшага чакаюцца і ва ўсім Глыбоцкім раёне. Канечне, пасля ўжо Дня беларускага пісьменства. *“Ігнат Буйніцкі нарадзіўся на празароцкай зямлі. Плануем пабудаваць там сядзібу-музей*, — казаў надоечы старшыня райвыканкама **Алег Морхат**. — *Працягнем добраўпарадкаванне гістарычна-турыстычнага цэнтра ў вёсцы Івесь, вядомага як “Цэнтр Еўропы”, культурна-дэндралагічнага комплексу ў вёсцы Мосар. Думаю, заслугоўвае ўвагі ідэя стварыць музей на памяць пра ксяндза Юзаса Бульку, які ператтварыў Мосар у беларускі Версаль, увага ж турыстаў да гэтага мястэчка круглы год вялікая”.*

З тым, што змены да лепшага ў плане беларушчыны прыкметныя, пагаджаюцца не толькі госці, але і тутэйшыя жыхары. Краязнаўца і журналіст **Кастусь Шыталь**, напрыклад, пазітыўныя крокі “вертыкалі” бачыць нават у тым, што з нейкага часу надпісы на дарожных указальніках пачалі мяняць на беларускі лад, і чыноўнікі пачынаюць размаўляць з месцічамі па-беларуску. А вось рэдактар і выдавец газеты “Вольнае Глыбокае” **Уладзімір Скрабатун** ва ўсіх гэтых кроках не бачыць ніякай перспектывы.

“*Думаю,* — кажа,— *надпісы на беларускай мове знікнуць, і кіраўніцтва зноў пачне размаўляць на рускай мове. Ну якое гэта свята, калі нават няма ніводнай школы беларускай? Чыноўнікі кажуць пра рэканструкцыю гарадскіх аб’ектаў. Але чаму не пра тое, што ў нашай гімназіі штогод скарачаецца колькасць класаў з беларускай моваю навучання? Чаму не пра тое, што наша дзяржаўная газета “Веснік Глыбоччыны” на 90% зрабілася рускамоўнай? Дзе тут павага да беларускай пісьменнасці? Ды нашы чыноўнікі наўрад ці змогуць выступіць на роднай мове перад гасцямі! Бо ад іх беларускага слова не дачакаешся. Калі пару гадоў таму яшчэ адказвалі па-беларуску на мае лісты, то цяпер і гэтага няма”.*

...Але вернемся на само свята, дзе ўсё гуло, дэкламавала, спявала, танчыла і грала... Пераказваць, што бачыў, чуў, чым частаваўся і да каго заляцаўся, — апошняя справа. На свяце трэба прысутнічаць, жыць ім, а не пераказваць. Таго і вам жадаю, але ў наступным годзе...

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

СТОЛИЦА

## В метро можно будет расплатиться карточкой

*С 5 сентября минчане смогут оплатить проезд в метрополитене банковской пластиковой картой.*

Соответствующий проект запускает Минский метрополитен совместно с “БПС-Сбербанком”. К расчетам принимаются карты платежных систем “БелКарт”, Visa и MasterCard. Об этом сообщила пресс-секретарь “БПС-Сбербанка” **Александра Каштанова**.

Новая услуга на первом этапе реализована для пассажиров самой загруженной станции метро — “Октябрьская”, за ней последует подключение и остальных станций.

Пока, как отмечает *belta.by*, с помощью пластиковых карточек можно всего лишь купить обычный жетон. Однако в будущем, возможно, карточкой можно будет оплатить проезд напрямую, через терминал.

## Сезон сельхозярмарок откроется 15 сентября

*“Цены на отдельные виды товаров, в частности на картофель, ожидаются ниже, чем в прошлом году, — цитирует belta.by начальника главного управления потребительского рынка Мингорисполкома* ***Валентина Байдака****. — Ветеранам по сложившейся традиции покупки к месту жительства доставят бесплатно”.*

К организации ярмарок планируется привлечь предприятия торговли, переработки и сельхозпроизводителей. На них можно будет приобрести овощи, фрукты, мясную и молочную продукцию.

Что касается выездной торговли на праздничных площадках в День города, то торговая надбавка на продукцию будет минимальной — до 10%.

